# Голас Радзімы

№ 20 (2162)
17 мая 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





**Прадоўжыць бацькаву справу...** Адвыклі мы апошнім часам ад такіх слоў і наогул ад такой з'явы. Калі чалавек проста ходзіць на працу абы дзень адбыць, а пакідаючы, і не ўспамінае пра яе, яму няма чаго пакідаць у спадчыну нашчадкам. Бо, каб нешта перадаць, трэба спачатку мець. Мець сваю справу, за якую баліць душа, якая застанецца і пасля цябе і перайсці можа толькі ў надзейныя рукі, скажам, сына. Так, як у сялянскай сям'і Емяльянавых са Жлобінскага раёна. На 50 гадоў узялі яны ў арэнду 65 гектараў зямлі: без надзейнай повязі пакаленняў тут не абысціся.

НА ЗДЫМКУ: Аляксандр ЕМЯЛЬЯНАЎ (малодшы) з дачкой.

(Заканчэнне фотарэпартажу на стар. 3).

9 МАЯ — ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ



# НЯЗГАСНАЕ СВЯТЛО ВЯЛІКАГА ПОДЗВІГУ

Свята, якое адзначала ўся краіна, — самае святое і значнае для кожнага савецкага чалавека, для ўсіх сумленных людзей Зямлі. Сёння, у перыяд шырокай публічнасці, мы на многія гістарычныя падзеі пачалі глядзець па-іншаму, па-іншаму іх ацэньваць. Але вышыня нашай Перамогі была і застаецца вялікай і непераўзыдзенай, таму што ў ёй быццам зліліся разам салдацкая мужнасць, майстэрства палкаводцаў і камандзіраў, стойкасць партызан і падпольшчыкаў, неймаверная па сваёй цяжкасці праца рабочых і калгаснікаў, небывалы ўзлёт творчай думкі інтэлігенцыі.

45-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гадоў быў прысвечаны ў Вялікім тэатры Саюза СССР у Маскве ўрачысты сход, парад на Краснай плошчы.

Заўсёды ўрачыста і хвалююча праходзіць дзень 9 Мая на Беларусі. Наша рэспубліка спаўна зведала гора і слёзы, прынесеныя на яе зямлю фашысцкім нашэсцем. Велізарную цану заплаціў беларускі народ за перамогу над бязлітасным ворагам — кожны чацвёрты яе жыхар аддаў за гэта сваё жыццё. Таму для Беларусі Дзень Перамогі — асаблівае свята, сапраўдны дзень памяці. Мінаюць гады, змяняюцца пакаленні, а памяць гэтая жыве і будзе жыць. Тысячы людзей выйшлі Дзевятага мая на плошчы і вуліцы беларускіх гарадоў і вёсак. Яны неслі кветкі да магіл загінуўшых воінаў, да салдацкіх абеліскаў, помнікаў, як і 45 гадоў назад, віншавалі з Перамогай адзін аднаго і, безумоўна, у першую чаргу ветэранаў Вялікай Айчыннай. Так, то была вайна народная, сапраўды народным святам застаецца і Дзень Перамогі ў ёй. Па традыцыі Дзевятага мая ў р[illegible]ліцы прайшлі шматлікія ўрачыстыя шэсці ветэранаў, сходы, масавыя народныя гулянні, а ў Мінску ў гонар свята Перамогі — парад войск.



НА ЗДЫМКУ: святкаванне 9 Мая ў Мінску.

*45 гадоў назад ніхто не ведаў яшчэ да канца, якімі бязмернымі будуць страты, панесеныя савецкім народам, у які акіян гора збяруцца пралітыя ім кроў і слёзы. Праўда аб цане Перамогі на паверку сама стала выпрабаваннем. Вымавіць яе і сёння цяжка. Але не сказаць нельга, каб не перарвалася сувязь часоў і не ачарсцвелі ад бяспамяцтва іншыя сэрцы.*

*...Вайна забрала амаль 27 мільёнаў жыццяў савецкіх людзей. А акрамя таго, былі мільёны параненых, кантужаных, абмарожаных.*

*...Цяпер нярэдка пытаюцца: як магло здарыцца, што краіна, якая выйграла вайну, і яе народ-пераможца жывуць горш, чым пераможаныя? Адказ заключаецца ў тым, што народ, які расправіў плечы, і разняволены чалавек, якія здабылі перамогу, былі зноў скаваны жорсткім абручом аўтарытарнай сістэмы.*

*Прайшоўшы франтавымі дарогамі, многія людзі ўпершыню сталі ўсведамляць ці хаця б падазраваць, што наша краіна не такая ўжо перадавая, як іх пераконвалі. Вярнуўшыся з вайны, яны не адчувалі сябе вінцікамі і вінцікамі быць не жадалі. Але гэтае пачуццё годнасці і свабоды ўпершыню атрымала выйсце толькі пасля XX з'езда партыі. І галоўная мэта перабудовы — у поўнай меры адрадзіць павагу асобы, самакаштоўнасці чалавека, вызваліць яго творчыя магчымасці.*

*...Усе сорак пяць гадоў, што мінулі з Дня Вялікай Перамогі, наша грамадства ішло да больш поўнага і глыбокага асэнсавання яе ўрокаў. І найважнейшы з іх, думаецца, у тым, што Вялікая Айчынная вайна выпрастала ў поўны рост і вывела на авансцэну гісторыі галоўную яе дзеючую асобу — народ. Перамога ясна прадэманстравала, у чым заключаецца яго неадольная сіла. Яна — у адзінстве, у адказнасці, у патрыятызме, грамадзянскай годнасці, у духоўнай і маральнай сіле кожнага чалавека.*

*(З даклада М. С. ГАРБАЧОВА на ўрачыстым сходзе ў Маскве, прысвечаным 45-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне).*

БЕЛАРУСЬ У ААН

## СУСТРЭЧА З ПЕРЭСАМ ДЭ КУЭЛЬЯРАМ

**Міністр замежных спраў Беларускай ССР Анатоль Гурыновіч меў сустрэчу з генеральным сакратаром ААН Хаўерам Перэсам дэ Куэльярам.**

**У ходзе гутаркі былі закрануты пытанні парадку дня Спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі па эканамічных пытаннях, узаемадзеяння і супрацоўніцтва БССР і ААН. Генеральнаму сакратару ААН перададзена сумеснае пісьмо пастаянных прадстаўнікоў СССР, УССР і БССР пры ААН з просьбай аб уключэнні ў парадак дня эканамічнага і сацыяльнага савета ААН дадатковага пункта: «Міжнароднае супрацоўніцтва ў ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі».**

**Да пісьма прыкладзены тлумачальная запіска і праект рэзалюцыі для разгляду на ранняй стадыі работы сесіі ЭКАСАС.**

ВІЗІТЫ

## ДЛЯ ПРАГРАМЫ ЮНЕСКА

**У сувязі са зваротам Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР да міжнароднага супольніцтва аб аказанні ўсямернага садзейнічання і дапамогі ў ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКА) рыхтуе сваю праграму.**

**Для абмеркавання звязаных з ёю пытанняў у Мінску знаходзіўся спецыяльны прадстаўнік генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Бруна Лефеўр. Ён быў прыняты першым намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР Ю. Хусаінавым, прэзідэнтам Акадэміі навук БССР У. Платонавым, міністрам культуры БССР Я. Вайтовічам. У дзелавых і канструктыўных гутарках былі абмеркаваны канкрэтныя сумесныя дзеянні, звязаныя з распрацоўкай упамянутай праграмы.**

**Б. Лефеўр пабываў і меў гутаркі ў клініцы Навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны Міністэрства аховы здароўя БССР.**

ПОМ РАЗЗБРАЕННЮ

## ЗАСТАНЕЦЦА ЯК РЭЛІКВІЯ

**Пасля трыццацігадовага баявога дзяжурства ракета сярэдняй дальнасці Р-12 (а дакладней — яе корпус) пастаўлена на вечную стаянку ў адным з мікрараёнаў Баранавічаў. На размешчанай непадалёку базе ліквідацыі РСД «Лясная» ў адпаведнасці з савецка-амерыканскім Дагаворам ад 8 снежня 1987 года ўжо знішчаны 226 такіх ракет. Адну з іх і вырашана не ператвараць у кучу металалому, а зрабіць помнікам пачатку рэальнага раззбраення.**

НОВАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ

## У АДЗІНСТВЕ — СІЛА

**Як вядома, група народных дэпутатаў СССР, кіраўнікоў гаспадарак, выступіла з ініцыятывай стварэння грамадскай арганізацыі, закліканай абараняць інтарэсы працаўнікоў вёскі. Утвораны аргкамітэт па падрыхтоўцы ўстаноўчага з'езда Усесаюзнай грамадскай арганізацыі «Сялянскі саюз СССР». Падтрымаўшы гэта рашэнне, група дэпутатаў-аграрнікаў ад Беларускай ССР, Савет калгасаў рэспублікі і Дзяржаграпром БССР стварылі арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенню з'езда аграрнікаў Беларусі. У Мінску адбылося яго першае пасяджэнне.**

**З'езд вырашана склікаць у апошняй дэкадзе чэрвеня. Выбары дэлегатаў намечана правесці ў маі на канферэнцыях прадстаўнікоў сялян і рабочых, выбраных на сходах калгаснікаў, працоўных калектываў саўгасаў і іншых прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу. Паралельна будуць выбірацца дэлегаты на ўстаноўчы з'езд Сялянскага саюза СССР, які адбудзецца ў Маскве.**

**У парадак дня рэспубліканскага з'езда будуць уключаны пытанні, якія датычаць стварэння Саюза аграрнікаў БССР, яго мэт і задач. Трэба выбраць старшыню саюза і яго намеснікаў, прыняць праграму і статут новай арганізацыі.**

**Вынікі пасяд[illegible]я каменціруе намеснік старшын[illegible]рганізацыйнага камітэта А. Чарняўскі:**

**— Чаму неабходны саюз аграрнікаў? Лічу, што без такой арганізацыі вырашыць сялянскія праблемы і адрадзіць сельскую гаспадарку немагчыма. Мэта саюза — актыўны ўдзел у забеспячэнні прыярытэтнага развіцця аграрнага сектара эканомікі, стварэнне сацыяльнай раўнавагі паміж горадам і вёскай, уздым прэстыжу сялянскай працы. Арганізацыя будзе працаваць на прынцыпах самакіравання і аб'яднае калектывы калгасаў, саўгасаў, сельскагаспадарчых кааператываў, арандатараў і фермераў. Раўнапраўнымі партнёрамі ў ёй стануць арганізацыі і прадпрыемствы сферы абслугоўвання і перапрацоўчай галіны, сельская інтэлігенцыя, вучоныя-аграрнікі. Гэта будзе арганізацыя з заканадаўчай ініцыятывай, якая дзейнічае праз сваіх прадстаўнікоў, выбраных у Саветы народных дэпутатаў. Але галоўная задача саюза — гэта перш за ўсё палітычная, эканамічная і юрыдычная абарона сялян.**

САЛІДАРНАСЦЬ

## АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ

**Чарнобыль. Гэтае слова кідалася ў вочы ў прасторных холах і кулуарах Палаца нацый — Жэнеўскай штаб-кватэры ААН.**

**Дзень памяці ахвяр чарнобыльскай катастрофы, дзень дапамогі людзям, якія пацярпелі ў выніку аварыі, быў арганізаваны тут па ініцыятыве сацыяльнай камісіі персаналу Еўрапейскага аддзялення Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, якая вырашыла такім чынам адгукнуцца на зварот да міжнароднага таварыства Вярхоўных Саветаў і ўрадаў Украіны і Беларусі.**

**Тысячы супрацоўнікаў ААН, іншых міжнародных арганізацый, размешчаных у Жэневе, наведвальнікаў Палаца нацый пазнаёміліся з матэрыяламі, якія расказваюць пра чарнобыльскую трагедыю, унеслі свае ахвяраванні ў фонд дапамогі пацярпеўшым. Сабраныя сродкі папоўняць спецыяльны фонд, створаны ў ААН для аказання садзейнічання ў ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

ВЫСТАЎКА

## СВЕДКІ МІНУЛЫХ ДЗЁН

**«Рускі батальны лубок» — так называецца выстаўка, якая адкрылася ў Дзяржаўным музеі БССР. На ёй прадстаўлены народныя карцінкі канца XIX, пачатку XX стагоддзяў. Гэта своеасаблівыя сведкі жыцця і быту рускага чалавека, якія захавалі след часу.**

**Асабліва многа жывапісных ілюстрацый да зводак з франтоў першай сусветнай вайны. Яны расказваюць пра перамогу рускай зброі, доблесць і гераізм простага салдата, высмейваюць паражэнні і промахі ворага.**

ЭКСПАЗІЦЫЯ

## СТО ПАЛОТНАЎ ПРА ПУШКІНА

**Другі раз «спыніўся» ў Магілёве больш чым праз паўтара стагоддзя Аляксандр Пушкін — цяпер ужо ў творах савецкіх мастакоў.**

**На тэматычнай выстаўцы, што адкрылася ў зале філіяла абласнога краязнаўчага музея, прадстаўлена звыш ста работ з фондаў Дзяржаўнага музея А. Пушкіна ў Маскве. Гэта партрэты паэта, ілюстрацыі да яго твораў, эскізы касцюмаў і дэкарацый да спектакляў, віды мемарыяльных месцаў, напісаныя М. Дабужынскім, А. Астраумавай-Лебедзевай, С. Герасімавым і іншымі аўтарамі.**

**Напомнім, што паэт наведаў Магілёў 6 жніўня 1824 года, калі вяртаўся з паўднёвай ссылкі ў сяло Міхайлаўскае. Правёў ён тады ў губернскім горадзе ўсяго толькі суткі. Але размовы і домыслы пра яго знаходжанне не сціхаюць і сёння.**

## ЭКАНАМІЧНАЕ І ГУМАНІТАРНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА З ЗАМЕЖНЫМІ СУАЙЧЫННІКАМІ

# ПЕРАБУДОВА — ГАРАНТ БІЗНЕСУ

**ТАК ЛІЧЫЦЬ МАЛАДЫ ПРАДПРЫЕМЕЦ-СУАЙЧЫННІК З АРГЕНЦІНЫ, ВЫЗНАЧАЮЧЫ СФЕРУ ПРЫКЛАДАННЯ СВАЙГО КАПІТАЛУ Ў БЕЛАРУСІ.**

**А якое прадпрымальніцтва абыходзіцца без абавязковага «стартэра», рэкламы. Аддадзім і мы належнае гэтаму канону менеджмента, хай сабе і ў самай скарочанай форме.**

**Сяргей Мамантаў, уладальнік кансультацыйнай канторы па нерухомай маёмасці і пытаннях працы, саўладальнік фірмы «Мамантаў-Шмідтаў», зацікаўлены ў наладжванні гуманітарна-эканамічных адносін з СССР.**

**Сёняшнім часам, асабліва калі мы шукаем найбольш рацыянальныя шляхі для пераходу да рэспубліканскага самакіравання і фінансавання, да рыначнай эканомікі, наш позірк прыпыняецца на найбольш сучасных і прагрэсіўных мадэлях замежжа. У многіх з іх эканамічнаму партнёрству з эмігрантамі надаецца самая сур'ёзная ўвага, як у Фінляндыі, Кітаі, Венгрыі, Польшчы і многіх іншых дзяржавах, што маюць вопыт у гэтай галіне і з'яўляюцца носьбітамі тых мадэляў. Мы ж пакуль што знаходзімся на стадыі разумення неабходнасці ўдзелу эканамічнага патэнцыялу замежных суайчыннікаў у развіцці нашай гаспадаркі. (Безумоўна, ёсць справы надта пільныя, прыярытэтныя ў нашым эканамічным жыцці, напрыклад, саўладаць з чарнобыльскім ліхам. Аднак «сястра па няшчасцю» Украіна ўжо працяглы час паспяхова ўдасканальвае замежныя сувязі з «нацыянальнай спецыфікай». Вельмі актыўна ідзе гэтым рэчышчам і Арменія).**

**Нельга сказаць, што няма, ёсць прыклады падобных кантактаў, і ў тым жа Беларускім таварыстве «Радзіма». Ды як толькі яны, кантакты, падыходзяць да практычнага ўвасаблення, адразу пачынаюць губляць сілу і рух перад літарай застарэлых пастаноў і інструкцый, статыкі пераходнага перыяду. А прыклады ёсць... І менавіта гэты здаўся мне даволі аптымістычным, як і ўвесь фон маёй гутаркі з трыццацісямігадовым бізнесменам. Карані яго генеалагічнага дрэва засталіся ў нашай краіне, а парасткі ад іх растуць у аргенцінскай пампе; першая асацыяцыя ад гэтага слова — край свету... Пад дыктоўку такога стэрэатыпа я і пачынаў размову з госцем, Сяргеем МАМАНТАВЫМ.**

*— Сяргей Савіч, міжвольнае сумненне, што можа прыйсці да чалавека, які хацеў бы заключыць з вамі кантракт, найхутчэй звязана будзе з вялікай геаграфічнай аддаленасцю, з транспартнымі расходамі...*

— Мяне цікавіць Савецкі Саюз, пастаўка сюды тавараў і паслуг. А пры існуючых спосабах сувязі — тэлефоны, тэлефаксы, самалёты — усяго толькі дваццаць гадзін лёту — адлегласць не стане перашкодай. Акрамя таго, трэба мець на ўвазе і сам характар нашай работы. Але перш за ўсё растлумачу дзеля дакладнасці... Гандлёвая фірма «Мамантаў-Шмідтаў» — новае прадпрыемства. Узнікла яно дзякуючы першай аргенцінскай выстаўцы, што адбылася ў Маскве ў кастрычніку 1988 года. Тады аргенцінскія кампаніі запрасілі мяне прыняць удзел у тым адказным мерапрыемстве па той прычыне, што я ведаю мову і эканоміку. Пасля выстаўкі мы з Аляксандрам Шмідтавым прынялі рашэнне адкрыць супольную фірму. У чым сутнасць нашай дзейнасці? Мы — пасрэднікі. Да нас звяртаюцца аргенцінскія грамадзяне з просьбаю, скажам, дапамагчы ім з рэдкай аперацыяй на спінным мозгу. Мы, са свайго боку, робім пераклады неабходных пісьмаў, звязваемся з інстытутам імя Бурдэнкі ў Маскве, дагавор з якім падпісалі ў канцы мінулага года. Потым запрашаем прадстаўніка інстытута ў Буэнас-Айрэс, дзе памагаем яму абслугаю. А ён выконвае свае абавязкі.

*— А якім чынам, калі не сакрэт, суаднесці ўсё гэта з Беларуссю?*

— Летась у консульстве СССР у Аргенціне я пазнаёміўся з мінскім урачом-нейрахірургам Уладзіславам Васіленкам, які заінтрыгаваў мяне прапановай наведаць Мінск. Я прыехаў сюды з дакладнай мэтай вывучыць перспектыву супрацоўніцтва з клінікамі нейрахірургіі і анкалогіі. Мы правялі ўжо перагаворы як з імі, так і з вытворчым цэнтрам міласэрнасці. Падпісаны пратаколы аб намерах. Маем разлікі на заснаванне ў будучыні сумеснага прадпрыемства.

*— Было б някепска, каб вы растлумачы[illegible] сутнасць пратаколаў.*

— [illegible]лугі, якія пералічаныя ўстановы будуць аказваць аргенцінцам, — гэтак сама і эмігрантам, выхадцам з Савецкага Саюза, у тым ліку і з Беларусі, — кампенсаваць таварамі, у якіх вы адчуваеце найбольшую патрэбу: шпрыцы, дазіметрычныя прыборы, living абсталяванне.

*— [illegible]кіх паслугах ідзе гаворка — аб аперацыях на спінным мозгу?*

— Не толькі. Людзі з Аргенціны пры нашым садзейнічанні маглі б прыязджаць сюды на лячэнне і рэабілітацыю, плаціць гэтым клінікам валютай, а тыя ў сваю чаргу вольныя закупляць на Захадзе ўсё патрэбнае ім. Апроч гэтага, мы дамовіліся з вытворчым цэнтрам міласэрнасці наконт пастаўкі яму машыны для друкавання фотаздымкаў. Мы думаем над магчымасцю наладзіць зборку гэтага апарата з далейшым яго экспартам ва Усходнюю і Заходнюю Еўропу. Такі дагавор мы маем ужо з Рыгай і Масквой.

*— Вы, відаць, няблага інфармаваны аб складаным становішчы ў савецкай эканоміцы. Мы шукаем выйсце з крызісу, гаворым аб нестабільнасці банкаўскай сістэмы, недасканаласці знешняй эканомікі. Карацей кажучы, гарантыі развіцця вашага бізнесу могуць здацца няяснымі. Вас гэта не стрымлівае?*

— Змест нашых сувязей не прадугледжвае падключэнне складаных структур. Гэта, па-першае. Па-другое, наша машына добрай якасці, яна дасць нядрэнныя вынікі. На самай справе, я някепска ведаю Савецкі Саюз, яго гісторыю, сачу за падзеямі ў краіне, выхаваны на традыцыях рускай класічнай літаратуры. А сёння новы час на дварэ. Перабудова — самая лепшая гарантыя. Яна многае змяніла. Сярод усяго — і стаўленне да замежных суайчыннікаў. Мы адчуваем гэтыя перамены і ў Аргенціне. Няма цяпер праблемы з выездам у СССР. Ды я і не першы раз наведваю зямлю, дзе зачынаўся наш старадаўні род. І сваю мару, і мару бацькоў убачыць на свае вочы гістарычную Радзіму ўпершыню я здзейсніў у 1981 годзе. У нас тут шмат сваякоў. Частка з іх была рэпрэсіравана ў сталінскі перыяд, частка раней баялася прызнаць мяне сваім. Перабудова трактуе ўсё па-іншаму. Нават адно тое, што мы зараз з вамі адкрыта гутарым на гэтыя тэмы, гаворыць аб вялікіх зрухах.

*— Не толькі адкрыта, але і на адным моўным узроўні, калі можна так сказаць. А, зыходзячы са звычайнай бытавой свядомасці і логікі, здавалася б, што эмігрантам надзвычай цяжка зберагчы родную мову, свае нацыянальныя асаблівасці ў тым кр[illegible] матлікіх народаў імігрантаў. Тым [illegible]й трэцяму пакаленню, з якога вы паходзіце. Здавалася б таксама, што асіміляцыя і сімбіёз розных культур павінны размыць прыналежнасць чалавека да яго генетычнай культуры, а прагмат[illegible] нашай эпохі — пазбавіць пачуцця [illegible]рыятызму ў адносінах да яе.*

— Павінен адзначыць, што ніякага сімбіёзу яшчэ няма. Аргенціна ў гэтым плане трохі бязладная краіна. Кожная нацыя імкнецца жыць па-свойму, няма агульнай культурнай прыстані. А, гаворачы аб выхадцах з Расіі ці Беларусі, трэба ўяўляць, што хоць і ёсць у нас некалькі эміграцыйных хваляў, але вы не сустрэнеце еднасці паміж імі. У іх розны палітычны погляд на СССР, а, значыць, няма адзінай аб'ядноўваючай Радзімы. У нашай жа сям'і, роданачальнікам якой быў вядомы рускі мецэнат і фабрыкант Сава Мамантаў, мы размаўлялі заўжды на роднай мове, і я па свайму складу і светаўспрыманню застаўся рускім. Мая жонка таксама з нашага асяроддзя. А вось дзеці ўспрымаюць рэчаіснасць інакш, не забывайце, што яны — чацвёртае пакаленне. Дык вось, іміграцыя... Перасяленцаў, што прыехалі ў Аргенціну з Беларусі да другой сусветнай вайны, падштурхоўвалі да выезду матэрыяльныя прычыны. Гэтая хваля эмігрантаў асела ў спрыяльнай дзяржаве, якая дала ім зямлю. Таму яны адчуваюць сябе амаль што так, як і карэнныя жыхары, хоць, вядома, не адмаўляюцца ні ад мінулага, ні ад Айчыны, якую любяць і шануюць.

Палітычная іміграцыя, народжаная Кастрычніцкай рэвалюцыяй і грамадзянскай вайной у Расіі, не пайшла на «зямлю», засталася ў гарадах і захавала сваю культурную аднароднасць пад уплывам асіміляцыйных працэсаў.

Але якую хвалю ні возьмеце, патрыятызм, прыцягненне да вытокаў жывуць у іміграцкіх клубах, цэрквах, саюзах. У гэтым псіхалогія гаўча, жыхара аргенцінскага стэпу, вельмі падобная па матывах сваёй настальгіі да нашай натуры.

**На гэтым мы развіталіся. Аднак, каб надаць матэрыялу завершанасць, я звярнуўся да тых, хто з савецкага боку непасрэдна прымаў удзел у падпісанні пратаколаў аб намерах. Каментарый спецыялістаў.**

**Сяргей ЗІНЧАНКА**, старшыня вытворчага цэнтра «Міласэрнасць» інвалідаў вайны, працы і дзяцінства пры Фондзе міласэрнасці і здароўя БССР:

— Мяркую, што супрацоўніцтва з любой заходняй фірмай, разлічанае на адраджэнне міласэрнасці, пойдзе нам на карысць. Тыя паслугі і тавары, якія мы атрымалі б за нашу работу для Аргенціны, былі б накіраваны на дапамогу перш-наперш інвалідам, тым, хто жыве на маленькую пенсію і не ўладкаваўся на працу. Апарат фірмы «Мамантаў-Шмідтаў», які мы надумалі прыдбаць для выканання фотаработ, значная ім падмога. Толькі на адным з іх можа працаваць 10 інвалідаў, якія атрымаюць нядрэнны заробак.

**Яўген КАРАТКЕВІЧ**, намеснік дырэктара Навукова-даследчага інстытута анкалогіі:

— Наша супрацоўніцтва з аргенцінскай фірмай — толькі планы. Яны маглі б здзяйсняцца ў двух напрамках. Альбо аргенцінцы будуць атрымліваць лячэнне непасрэдна ў нашым інстытуце, альбо, калі яны не маюць сродкаў, каб аплаціць дарогу, мы ў стане даваць завочныя кансультацыі, парады, высылаць відэафільмы і г. д.

**І апошняя заўвага аўтара. Эканамічнае супрацоўніцтва з замежнымі суайчыннікамі вызначаецца не толькі ўзаемавыгаднасцю, але і тым, што дзелавыя інтарэсы землякоў-іншаземцаў грунтуюцца на духоўных запатрабаваннях, імкненні да этнічнай роднасці, культурнай лучнасці з Айчынай продкаў. І заслугоўвае гэта супрацоўніцтва нашага дбайнага падыходу.**

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

## АД СЭРЦА ДА СЭРЦА

# РЭЦЭПТ АД БЕДСТВА

Пад перакліканне велікодных званоў, праз полымя вострых і цяжкіх дыскусій аб шляхах развіцця перабудовы падыходзім мы да трагічнай старонкі, спрэс зацярушанай радыяцыйным попелам 26 красавіка 1986 года. Чатыры гады споўнілася з дня катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, якая сталася мала што ні судным днём для беларускага народа. За якія толькі грахі, спытацца... З таго моманту мы змагаемся з бядой, лічыце, сам-насам, супрацьпаставіўшы яе дэманічнай сіле палеміку паміж навукоўцамі, добрыя планы і намеры, марудныя захады і бюджэтную бездапаможнасць... Але суцяшае тое, што апошнім часам наш SOS абяцае стаць не зусім марным лямантам у пустыні: прымае захады парламент краіны і ўрад рэспублікі, прайшоў Усесаюзны тыдзень міласэрнасці, адбыўся грандыёзны тэлемарафон, маем дапамогу з-за мяжы, у тым ліку і ад замежных суайчыннікаў.

А сярод іх, пакуль што нямногіх, варта прызнаць, асаблівы ўклад у справу ліквідавання вынікаў чарнобыльскай трагедыі зрабіў наш зямляк з ФРГ Міхаіл Мельнік. Сапраўды, тройчы, пачынаючы з кастрычніка мінулага, з працягам у студзені і красавіку гэтага года Міхаіл Малахавіч прывозіў Беларускаму таварыству «Радзіма» ахвяраванні ад веруючых Заходняй Германіі. Пра два першыя яго прыезды паведамлялася ўжо на старонках «Голасу Радзімы». Гаворка цяпер пойдзе аб трэцяй ягонай акцыі дабрачыннасці, што адбылася ў тым жа таварыстве «Радзіма».

...На ўрачыстай перадачы дарункаў прадстаўнікам Вілейскага і Валожынскага раёнаў БССР, на якой прысутнічала і дэлегацыя Саюза свабодных пяцідзесятніцкіх цэркваў Германіі на чале з дырэктарам місіі «Біблія для свету» Альфрэдам Ланкайтале, Міхаіл Мельнік сказаў:

— Для мяне вялікая радасць зноў знаходзіцца ў асяроддзі маіх адзінакроўных братоў і дапамагаць майму народу. У гэтым мая, як замежнага суайчынніка, мэта. Усё, што мы перадаём, сабрана мною пры непасрэдным удзеле і падтрымцы нямецкіх братоў па веры. Мы прывезлі 30 тысяч шпрыцаў аднаразовага выкарыстання (10 тысяч з іх ахвяравалі ўкраінскім веруючым), медыкаменты, сістэмы пералівання крыві, 22 кілаграмы шакаладу для дзяцей, які хацелася б уручыць уласнаручна.

На думку старшыні фонду міласэрнасці і здароўя БССР Мікалая Саўчанкі, гэтае пажаданне лепш за ўсё можна было ажыццявіць у санаторыі «Аксакаўшчына», дзе праходзяць курс лячэння дзеці з найбольш пацярпеўшых ад аварыі раёнаў Беларусі. Ён жа выказаў надзею:

— Спадзяёмся, што тая сцежка, якую вы, Міхаіл Малахавіч, пралажылі, дапаможа нам. Вы знайшлі найлепшы рэцэпт ад нашага бедства. І гэта зроблена ад шчырага сэрца.

А старшыня прэзідыума Беларускага таварыства «Радзіма», народны дэпутат СССР Міхаіл Савіцкі, адкрываючы ўрачыстасць, назваў дапамогу веруючых ФРГ «вялікім знакам міласэрнасці». І дадаў:

— Гэтая падтрымка — неацэнная. Хачу шчыра падзякаваць за яе нашаму суайчынніку Міхаілу Мельніку, з якім мы сустракаемся не першы раз, і нашым добразычлівым гасцям.

Прадстаўнік Мінскай абшчыны хрысціян веры евангельскай Аляксандр Мелюхаў дапоўніў папярэдніх прамоўцаў слушным тлумачэннем. Не трэба думаць, заўважыў ён, што Міхаіл Малахавіч — багаты чалавек. Ён пенсіянер, жыве ў сціплай двухпакаёвай кватэры.

Тое, што зроблена ім і яго нямецкімі братамі па веры, — прыклад дабрачыннасці. Прысутныя даведаліся таксама, што госці прывезлі і некалькі тысяч біблій, духоўную літаратуру для дзяцей.

Чытач, безумоўна, звярнуў увагу на адрасы, па якіх будуць накіраваны ахвяраванні. Але ж Вілейка і Валожын размешчаны далёка ад чацвёртага блока Чарнобыльскай АЭС, тым не менш...

— 40 працэнтаў насельніцтва Валожынскага раёна жыве ў забруджанай радыенуклідамі зоне, а 2,5 тысячы жыхароў — у зоне звыш 5 кюры на квадратны кіламетр, — такую трывожную статыстыку прывёў прысутным старшыня раённага камітэта Фонду міру Павел Калаур.

У суме кошт дарункаў без уліку фінансавай ацэнкі першай партыі перададзеных Беларускаму таварыству «Радзіма» Міхаілам Мельнікам склаў каля 120 тысяч заходнегерманскіх марак. У натуральным выражэнні гэта: 47 тысяч аднаразовых шпрыцаў з іголкамі, вітаміны, медыцынскія прэпараты, хірургічныя пальчаткі, сістэмы для пералівання крыві.

**Сцяпан АКОЎКА.**

## ПРОШЛОЕ И НАСТОЯЩЕЕ

**В год 45-летия Победы над фашистской Германией издательство «Юридическая литература» выпускает четвертый из восьми томов нового дополненного издания материалов Нюрнбергского процесса. Всю работу планируется завершить к 1992 году. О том, почему ученые вновь обращаются к этим историческим документам, рассказывает член авторской группы кандидат военных наук Юрий ЗОРЯ.**

# НЕИЗВЕСТНЫЙ НЮРНБЕРГ

Сорок с лишним лет назад в Нюрнберге Международный военный трибунал осудил преступную деятельность главарей национал-социализма, сущность его идеологии и политики. Участники антигитлеровской коалиции договорились тогда издать материалы этого процесса, состоящие из стенограмм, документов и справочной информации, — в общей сложности 42 тома, прошедших международную юридическую экспертизу. В США и Великобритании они были воспроизведены на английском и немецком языках и представлены общественности уже к 1948 году. Наша страна несколько запоздала, и только в конце пятидесятых в свет вышел семитомник, который не содержал никаких упоминаний о ряде принципиальных вопросов, обсуждавшихся в Нюрнберге. В сознании миллионов советских граждан, видимо, должна была формироваться убежденность, что «судебный процесс века» от начала до конца был сфокусирован только на пороках третьего рейха. Но ведь мир взаимозависим...

За работу по дополнению усеченных из-за цензурных соображений материалов издательство «Юридическая литература» взялось пять лет назад. Правда, тогда еще многие документы, касающиеся расследований Международного военного трибунала, находились на закрытом хранении в спецфондах. А те немногие избранные исследователи, которым раньше было дозволено прикасаться к упрятанным в сейфы страницам, вряд ли помышляли об их скорой публикации.

Почему же в стране, которая по всеобщему признанию внесла решающий вклад в победу над фашизмом, полное содержание процесса в Нюрнберге было столь долго окружено завесой секретности и недосказанности?

Оказывается, в ходе судебного разбирательства над виднейшими нацистскими преступниками всплыли серьезные вопросы, которые привели в замешательство советских обвинителей и не могли не обеспокоить сталинское руководство. Например, к числу «неудобных» свидетельств относились немецкие документы, подтверждавшие факты массовых репрессий в первом государстве рабочих и крестьян. Возникла также проблема договора 1939 года между СССР и Германией и секретных приложений к нему.

Трибунал не признал предоставленные советской стороной материалы по Катынскому делу и не включил этот пункт в обвинительный приговор. Версия о том, что к расстрелу польских офицеров причастны эсэсовцы, не выглядела достаточно убедительно и не подтвердилась. Теперь очевидно, что замалчивание в нашей прессе и историографии той кровавой истории в смоленском лесу нанесло вред дружбе между народами СССР и Польши...

Видимо, по мнению «отца всех народов», триумф страны-победительницы не должна была омрачить и прозвучавшая на трибунале цифра — четыре миллиона: столько советских солдат и офицеров, по данным германского командования, находились в немецком плену к январю 1942 года. Это почти соответствовало численности кадрового состава Красной Армии перед началом войны. В несколько ином свете позволяют взглянуть на наши неудачи и потери свидетельства подсудимых в Нюрнберге о неверных оценках советским командованием направления главного немецкого удара в 1941 и 1942 годах.

К сожалению, сейчас можно констатировать, что в нашей стране не был целиком предан гласности тщательный анализ, которому на Нюрнбергском процессе подверглась идеология и политика национал-социалистов в период захвата ими власти. Так, в качестве доказательства обвинения фигурировала программа НСДАП, в которой под пунктом 25 выдвигалось требование «сильной централизованной государственной власти, н е о г р а н и ч е н н о й (разрядка моя. — **Ю. З.**) власти центрального политического парламента над всей империей и над всеми ее организациями...» Устав НСДАП требовал, чтобы в Германии существовали только те организации, которые верны принципам фюрерства и национал-социализма, входят составной частью в национал - социалистическое движение, сформированы им и находятся под его контролем. Все остальные общественные организации должны были либо подчиниться, либо бесследно исчезнуть.

Нюрнберг высветил и тот факт, что советские юристы оказались не готовы к ведению открытого состязательного разбирательства. Школа генерального прокурора А. Вышинского, которую многие из них прошли, не предусматривала таких случаев в судебной практике, когда защита выступает на равных правах с обвинением. Например, двое из помощников государственного обвинителя — М. Рагинской и Л. Шейнин участвовали в подготовке процесса по делу параллельного право-троцкистского блока, а последний, кроме того, расследовал и дело об убийстве Кирова.

Правда не бывает несвоевременной. И хотя ее запоздалое возвращение — безусловное благо, с горечью приходится сознавать, что многих заблуждений, ведущих к недоверию между целыми государствами, можно было бы избежать гораздо раньше. Это относится и к сделанному в декабре прошлого года на Втором съезде народных депутатов СССР докладу А. Яковлева, председателя комиссии съезда по политической и правовой оценке советско-германского договора о ненападении 1939 года. Так обстоят дела, на мой взгляд, и с преданием гласности новых документов Нюрнбергского процесса. Поэтому обращение к источникам более чем сорокалетней давности вполне актуально, они могут дать дополнительную пищу для размышлений и научных исследований.

(АПН).

## СССР В ВОЙНЕ 1941—1945 ГОДОВ: НОВЫЕ ДАННЫЕ

# ПРАВДА О ЧЕЛОВЕЧЕСКИХ ЖЕРТВАХ

На Западе сплошь и рядом сталкиваешься с недопониманием и даже незнанием всей правды о человеческих жертвах, которыми обернулась для разных стран мировая бойня 1939—1945 годов, сетовал профессор Эделфийского университета Питер Келли (США) в статье «Советский Союз, а не Соединенные Штаты разгромили нацистов». Даже мнящим себя осведомленными людям обычно невдомек, что «на каждого павшего тогда американца приходится едва ли не 60 убитых советских граждан».

Выводя эту пропорцию (1:60), автор опирался на приблизительные подсчеты профессора Гельмута Арнтца (ФРГ), впервые упомянутые советской печатью в 1957 году и канонизированные после их подтверждения в 1961 году тогдашним главой Правительства СССР Н. С. Хрущевым: **в годы Великой Отечественной войны (1941—1945) погибли 20 миллионов советских людей.** Разумеется, не только солдат и офицеров. Ведь советско-германский фронт огненным смерчем прокатился по густонаселенным районам страны от Прибалтики и Карпат до Волги и Кавказа (а потом — обратно). Агрессор не щадил мирных жителей.

**Страшное лихолетье 40-х отняло у советского народа не около, а свыше 20 миллионов жизней.** Так подкорректировал официальную цифру в 1965 году тогдашний первый секретарь ЦК КПСС Л. И. Брежнев. Но возник вопрос: если свыше, то на сколько?

**Прямые людские потери СССР в 1941—1945 годах — минимум 27-28 миллионов человек (включая гражданских лиц),** констатирует в журнале «Политическое образование» № 10/1989 профессор Леонид Рыбаковский, заведующий отделом демографии в Институте социологических исследований АН СССР. Таков итог строгого анализа, позволившего определить, сколько жителей было в Советском Союзе на 1 января 1941 года (196,7 миллиона) и сколько на 1 января 1946-го (168,6 миллиона). Разница между обеими величинами — 28,1 миллиона человек. Вроде бы нехитрая арифметика, но за ней — непростая алгебра. Переписи населения в 40-е годы не проводились, и его численность на обе даты оценивалась специалистами неоднозначно. Потребовались методологические усовершенствования и дополнительные выкладки. Но и после них сохранилась неизбежная расплывчатость конечного результата: не менее 27-28 миллионов.

**К этому прямому демографическому урону надо добавить косвенный: плюс еще примерно 15 миллионов человек.** Ибо вторжение нацистской Германии в СССР повлекло за собой не только гибель миллионов от пуль, снарядов и бомб, от пожаров и разрушений, от пыток в застенках гестапо или отравления в газовых камерах концлагерей. Неслыханные бедствия, лишения, стрессовые потрясения той поры заметно повысили смертность мужчин и женщин, стариков и детей. Кроме того, резко сократилась рождаемость. **Если бы не война, население СССР за 1941—1945 годы не уменьшилось бы до 168,6 миллиона, а увеличилось бы до 210—212 миллионов человек. То есть фактически оно лишилось не 27—28, а 41—43 миллионов жизней** (в сумме с недобором естественного прироста, вычисленного для нормальных условий мирного развития СССР).

Фронтовые слагаемые этой статистики тоже немалы, хотя и не столь огромны, какими их изображают иные исследователи на Западе и даже в СССР. Журнал «Дружба народов» (Москва) в № 9/1989 устами Юрия Геллера сообщает: в 1941—1945 годах погибли-де 22 миллиона советских солдат и офицеров. Английский историк Н. Дэвис писал о 13 миллионах, но это тоже гипербола. **Советские Вооруженные Силы потеряли в 1941—1945 годах 8,7 миллиона человек** убитыми, умершими от ранений, несчастных случаев и болезней, оказавшимися в плену и пропавшими без вести, свидетельствует генерал армии Михаил Моисеев («Военно-исторический журнал» № 3/1990). Количество раненых, контуженных, обмороженных, обгоревших, заболевших составило около 18 миллионов человек, но в подавляющем большинстве своем они после излечения вернулись в войска или в народное хозяйство.

Вермахт и формирования СС потеряли во второй мировой войне 7,4 миллиона солдат и офицеров (на советско-германском фронте — более 6 миллионов), войска союзников третьего рейха — 1,2 миллиона человек (на советско-германском фронте — свыше миллиона). Число раненых, обгоревших, обмороженных, но выживших перевалило за 6 миллионов (на советско-германском фронте — 4,9 миллиона). Комментируя эти цифры в своей статье «Цена агрессии» («Военно-исторический журнал» № 9/1989), генерал-майор Владимир Гуркин и полковник Олег Гуров напоминают: главным фронтом второй мировой войны был, бесспорно, советско-германский, а не какой-то иной.



Домой с победой...

Гражданское население Германии поплатилось за авантюру нацистского руководства миллионами погибших и пропавших без вести, среди которых 3,3 миллиона одних только немцев (сведения о судьбах иностранцев, находившихся в тыловых частях и учреждениях рейха, на строительных и других работах, в германских документах не обнаружены).

**Прямые потери третьего рейха в развязанной им глобальной бойне 1939—1945 годов близки к 11 миллионам человек** (не считая миллионов покалеченных, инвалидов). Правда, можно и нужно отсюда вычесть округленно 2 миллиона немецких пленных, вернувшихся из СССР в Германию, уже мирную. Но итог выглядит все равно плачевным. Тем более если к прямому демографическому ущербу присовокупить косвенный. А ведь размеры и последствия того и другого в СССР еще масштабней, чем в Германии, что, впрочем, **неудивительно.** Ведь оккупация врагом значительной части территории СССР длилась свыше трех лет, а военные действия в Германии велись менее пяти месяцев. Но важнее другое: победители не обрекали ее на кошмары геноцида. **Красная Армия громила лишь войска агрессоров, очищая от захватчиков свои и чужие земли.** Выполняя освободительную миссию, она избавляла от нацистской тирании один народ за другим, включая немецкий. Советские власти не собирались покорять его, терроризировать, мстить ему за чудовищные злодеяния гитлеровцев. Напротив, всячески помогали ему скорее преодолеть разруху, голод и другие последствия той гигантской трагедии, в которую он был ввергнут милитаристами.

Огромны бедствия и страдания, испытанные народами 62 государств, которые были втянуты в орбиту второй мировой войны. Но основная ее тяжесть и наибольшие жертвы выпали на долю СССР, который внес решающий вклад в Победу над агрессорами.

**Лев БОБРОВ.**

## З БЕЛАРУСКАГА НАДДЗВІННЯ Ў ЛАТВІІ

# «Я ВОЛЬНЫ СЫН НЕБА»

Паплечнікам Эдуарда Вайвадзіша сярод аўтараў «Першага кроку»—зборніка вершаў гуртка маладых беларускіх паэтаў з Латвіі (Рыга, 1926 г.) быў Пятро Сакол. Пад такім псеўданімам і пусціла ў свет у 1929 годзе «Беларускае выдавецтва ў Латвіі» яго зборнік вершаў «На сьвітаньні».

Пятро Сакол — Пётр Аляксандравіч Масальскі—нарадзіўся 1 ліпеня 1905 года ў мястэчку Пасінь Люцынскага павета Віцебскай губерні (цяпер в. Асіене Лудзенскага раёна Латвійскай ССР). Вучыўся ў Люцынскай беларускай гімназіі, закончыў Беларускія настаўніцкія курсы ў Рызе. За ўдзел у рабочым руху ўлады буржуазнай Латвіі пазбавілі яго права выкладання. Працаваў на чыгунцы, тартаку, кар'ерах, быў справаводам, бухгалтарам, нарміроўшчыкам. Вершы пісаў з пятнаццаці гадоў. Выдатна валодаючы латышскай мовай, пачаў перакладаць. З-за падзякі да абаронцы беларусаў у Латвіі надрукаваў пераклады вершаў Яніса Райніса. У архіве засталіся пераклады прозы Яніса Райніса. Яшчэ ў 1935 годзе падрыхтаваў пераклады латышскіх народных песень-дайнаў. Перад смерцю паспеў іх перарабіць і адаслаць у Мінск. Яго «Дайны» выдала «Мастацкая літаратура» (1985).

Перад другой сусветнай вайной Пётр Аляксандравіч задумаў стварыць беларуска-латышскі слоўнік. Вярнуўшыся ў разбураную Рыгу, ён ужо не знайшоў сваю картатэку. Але ў падручніках, якія ён перакладаў для беларускіх школ, напрыклад, па-геаграфіі, засталася хоць часцінка мовазнаўчай спадчыны П. Масальскага. Зараз яго справу падхапіла ў Рызе Мірдза Абгла: ужо гатовыя некалькі тысяч пазіцый будучага латышска - беларускага слоўніка.

У 1985 годзе Пятра Аляксандравіча—Пятра Сакола—не стала. Няма ў каго спытаць дазволу на праўку тэкстаў. Вершы друкуюцца так, як яны былі напісаны аўтарам — яго шурпатай, але гарачай рукою.

Сяргей ПАНІЗНІК.
Фота аўтара.



Пётр МАСАЛЬСКІ.

**Пятро САКОЛ**

### ЛЮЦЫНСКІ ЗАМАК

На крутым берагу адзінокі
Стары замак даўно ўжо стаіць;
Ён над возерам грозна падняўся
І навокал так сумна глядзіць.

Вараньнё на ім гнёзды павіла,
Між каменьняў трава ўжо расьце...
Чорным мохам пакрыліся сьцены,
Груда цэглаў у цёмным куце.

У ягоных нагах ляжыць горад,
Як у бацькі сынок на каленьнях;
Вокны горада зьзяюць агнём
На вячэрняга сонца праменьнях.
Калі ж выгляне месяц з-за хмар,

Калі горад патроху засьне, —
Стары замак, як волат, стаіць,
Зачараваны ў жудасным сьне.

*11.X.1922. Люцын.*

### Я ВОЛЬНЫ СЫН НЕБА

Я вольны сын неба! Сакол я свабодны!
Мне цяжкіх залезных ланцугаў
ня трэба.
Хоць я і радзіўся з нядолі
народнай, —
Сакол я свабодны! Я вольны сын неба!

Я веру ў свабоду! Я веру ў шчасьце!
Жадаю яго я сваёму народу.
Ня век панаваць будзе нам
няшчасьце, —
Я веру у шчасьце! Я веру ў свабоду!

Дарогу мне к сонцу! Дарогу к
свабодзе!
Стучыцца ўжо шчасьце к маёму
ваконцу.
Лячу абуджаць я надзею ў народзе.
Дарогу к свабодзе! Дарогу мне к
сонцу!

*20.I.1923. Люцын.*

### БЕЛАРУСКІ СЬЦЯГ

Узьвіўся горда, вольна ў неба
Бела-крывава-белы Сьцяг.
Ен чыстаты народнай сьведка
І яго цяжкай долі знак.

Ідзі пад гэты Сьцяг прыгожы,
каму свой родны дораг кут!
Даволі брэсьці ў бездарожжы, —
трэ сьнікуць путы злых пакут!

Пад Сьцягам гэтым мы адважна
пазбавім край ад ланцугоў.
Прыйдуць вякі, і нас уважна
успомніць грамада братоў.

*20.VII.1923. Люцын.*

### ПОКЛІЧ

Гэй, сільныя духам, сыны Беларусі,
Час кінуць ад гора стагнаць!
Ня плакаць ды енчыць, ня гнуцца ў
прымусе, —
А птушкай трэ ў неба сягаць!

Калі доля лепшая нам не даецца,
Дык рукі ня трэба спушчаць!
Калі ж з нас доля, як з дурняў
сьмяецца, —
Дык долю за чуб трэба браць!

Дык, гэй жа, ў магутную стаю
злучайцесь,
Узьнімайцеся ўвысь сакалом!
За лепшую долю адважна змагайцесь,
Кідайцеся ў бойку з арлом!

*17.X.1923. Люцын.*

### НА БЕЗДАРОЖЖЫ

Ціхай чаргою мяняюцца дні.
Сумны, бязмоўны яны.
Коцюцца ў даль...
Шляху ня бачна з нуды...
Дзень надыходзе. З ім родзіцца сум.
Цісьнецца сэрца ад дум.
Хочацца вырвацца з цемры нямой,
Хочацца думкі ж ы в о й.

Вось мільгане яна ў сховах душы, —
сьпевам зальецца ў цішы...
Думкі ж нямыя не сьпяць —загнятуць
Зноў чорнай хмарай паўзуць.

Зноў ахапляюць балючай нудой,
Й жудасьць пануе табой...
Так вось мінаюць юнацкія дні, —
Сумны, бязмоўны яны...

*17.II.1925. Рыга.*

### ПРЫЙМІ!

О, Родны Край! З м[illegible]ой ахвяру
Ля ног Тваіх кладу: [illegible]рыймі!
Не адхіляй бязшчадна дару!
Усё, што ёсць, кладу: — Вазьмі!

Прыймі! Табе дары патрэбны,
Патрэбна шмат Табе ахвяр.
Бо спавівае дым ганe[illegible]
Твой ясна-сонечны а[illegible]

Прыймі! Бо злуюць яшчэ богі.
І грозны кліч: ахвяр! дароў!
Яшчэ трасецъ лясы, разлогі
Зямлі згнячоных крывічоў.

Прыймі! Спалі! Усе складаю...
Хай загарыць да зор пажар!
Прыймі! Ты бачыш — ўсё, што маю,
Кладу з мальбой на Твой аўтар!

*4.VII.1925. Рыга.*

### ВОЧЫ

*Ахвяруецца Л. А.*

На мяне зірнулі раз
Маладой дзяўчыны вочы.
— Ну і што ж у тым, што раз
На мяне зірнулі вочы!..

Але той пагляд жывы
Сьніцца мне і ўдзень і ўночы,
Дык няўжо ж ў тым вінны вы,
Маладой дзяўчыны вочы!..

Закахаўся я зусім:
Палюбіў пагляд дзявочы.
— Дык чаму ж (вось дурны!)
Не цалую гэты вочы!..

*6.XI.1925. Рыга.*

### АДЫЙДЗЬЦЕ

Адыйдзіце ад нашага шляху
Тыя, імя чыё — таргашы!
Ваша мейсца ня тут, каля сьцягу, —
Ваша мейсца, — дзе лічуць грашы!

І ня вам быць харунжымі руху,
Што ськідае чужацкі прымус;
Не за сала прымазьнікаў бруху
Пакладае жыцьцё беларус!

Не паганьце вы імя сьвятога,
І народ не губіце жывы;
Усю брыду існаваньня сваёга
Хоць цяпер зразумейце жа вы!

Зразумейце! І — вочы закрыўшы
І спужаўшыся прорвы сваёй,
Праклінаючы час, вас ўзрадзіўшы,
Адыйдзіце ад справы сьвятой!

*20.XI.1926. Рыга.*

### ***

*У памятку Т. Р.*

Мінуць гады, і мары радасьці
Прайдуць, як сны;
І смутку попелам пакрыюцца
Вачэй агні.

Застынуць вусны ў вечнай горачы;
І ўсё часьцей
Узірацца станеш ты на радаснасьць
Другіх людзей.

І ў сэрцы сетку чорнай зайздрасьці
Павук спляцець.
Жаданьне: жыць! — магутнай хваляю
У грудзёх ўсплывець.

І сэрца туканьнем прарывістым
Дасьць знаць табе,
Што хоча жыць яно, піць радасьці,
Палаць ў вагне.

І загарыцца твар твой полымем.
І з-пад брывей
Зайскрыцца познаю ўжо прагнасьцю
Пагляд вачэй.

І станеш ў кожны твар з маўклівасьцю
Ты узіраць:
Між імі шчасьця — ўжо мінулага —
Сабе шукаць.

Але — ўзбуджаць людскія сэрцы ўжо
Ня зможаш ты:
Усім будзе сьмешна бачыць за[illegible]
Тваёй любві.

Чаргой нячулаю і зімнаю
Усё міма, ўдаль
Прайдуць яны... І ў сэрцы скрыўджаным
Прачхнецца жаль...

Перад табой паўстануць ў памяці
Юнацтва дні,
Што без кіпучай шчырай радасьці
Усё міма йшлі.

І мо — палючым болем сьціснецца
Душа твая,
Калі у той чарзе, між іншымі
Прайду і я...

*10.VI.1926. Рыга.*

### АДВЕЧНЫЯ РАБЫ

*З паэмы «Латгаліяда»*

Шлопаюць лапці лазовыя,
Хлюпае юхтавы бот...
Па бездарожжу вясноваму
Йдуць яны з году у год...

Рукі бязвольна хістаюцца,
Плечы ад торбы баляць,
Млеючы, ногі згібаюцца, —
Болей ня хочуць ступаць.

Нізка галовы схіліліся,
У сэрцах пакрыўджаных — боль...
Гоніць іх цемра бязлітасна,
Гоніць спрадвечная голь!..

Усё маладыя і дужыя,
Ім бы на долю — плываць!
Ім бы рукамі сталёвымі
Хату сваю будаваць!

Славіліся сілай магутнаю
Дзеці крывіцкіх сяліб, —
Ім бы —плячом разьвярнуцца, —
Жартам сусьвет занялі б!..

Але, — галовы схіліліся.
У сэрцах пакрыўджаных — боль...
Гоніць іх цемра бязлітасна,
Рызьзямі ўкрытая голь...

— Гэй, земляк! Ці далёка вам!
— Эх, брат! — адкуль не відаць.
Йдзём у батрацтва ў Курляндыю,
Сілу сваю прадаваць!..

— Эх, крывічы! Ну ж і долюшку
Вы ад жыцьця узялі!..
Помню — заўчора пад Польшчаю
Панскім быдлём вы былі.

Учора — разлогі сібірскія
Шляхам злучалі з Масквой.
«Шэрым баронам» Курляндыі
Сяньня вы возіце гной!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шлопаюць лапці лазовыя,
Хлюпае юхтавы бот...
Па бездарожжу вясноваму
Йдуць яны з году у год...

*24.IV.1927. Пасінь.*

### СЬВЯТА ПРАЦОЎНЫХ

Сяньня грамадамі, дружна
мы выйшлі з песьнямі працы,
Выйшлі мы з песьнямі працы,
песьнямі волі, змаганьня.
Узвейся горда, штандар пурпуровы,
і залунай!
Песьні працоўных, гімны аб волі
ты прывітай!
Садзяць нас ў турмы і гноюць,
за краты схаваўшы.
Але дарэмна тыраны
сусьвет павучыньнямі ткуць!
З нашых радоў,
пурпуровым штандарам зьяднаных,
У зьмену загінуўшым —
новых мільёны ідуць!
Мы не пужаемся злосьці багатых,
ускормленых потам,
Потам мазолістых рук
пралетарскіх радоў.
Сяньня мы выйшлі з майстэрняў
сказаць усясьвету
Слова маўчаўшых,
свабоднае слова рабоў!
Хочам мы волі —
Даволі прыгнёту і зьдзеку!
Самі мы выкуем долю —
уласнай рукой.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Узьвейся горда магутная песьня! —
і прагрымі!
Над незьлічонай грамадай
працоўнай сям'і!
Сяньня грамадамі, дружна...
мы выйшлі з майстэрняў.
Выйшлі мы з песьнямі працы,
песьнямі волі, змаганьня.
Узьвейся горда, штандар пурпуровы, —
і завітай!
Панскаму сьвету — сьвету прыгону —
песьню аб сьмерці сьпявай!

*I.V.1927. Дзьвінск.*

### ПЕСЬНІ

*Ахвяруецца вучням*
*Дзьвінскай Беларускай Гімназіі.*

Песьні аб горы старыя дзяды нам
сьпявалі.
Слухалі мы іх — і сэрца балела ў
грудзёх...
Час той мінуўся, — мы новыя песьні
пачалі:
Песьні аб волі — грымочую цяпер
на палёх!

Сьмела глядзім мы нязгаснаму сонцу
у вочы
І усьміхаемся дзёрзка, убачыўшы ў
ніве залом.
— Досіць, пяём мы, блудзіць на
задворках уночы,
Праўды сьвятло ў каганцох мы
народу нясём!

*14.IX.1927. Дзьвінск.*

